АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

8 – 14 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№2 (194)

ВАЛОЖЫН

## "Працоўная слава" знайшла новага рэдактара

Першы сёлетні нумар валожынскай "раёнкі" падпісала ў друк **Тацціяна Шаблыка**.

Дагэтуль яна працавала намеснікам рэдактара. Тацціяна – карэнная мінчанка, аднак лёс склаўся так, што жыве і працуе ў райцэнтры – у Валожыне яна ўзяла шлюб і, як кажуць, "асела".

"Працоўная слава", дарэчы, сёлета адзначае 60–годдзе.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## У Новы Год без чэргаў

У першыя дні года масла ў горадзе прадавалі ва ўсіх магазінах. Нормы, праўда, захаваліся – па 200 грамаў у рукі. Без усялякіх спісаў масла можна купіць па цане 222 тысячы за кілаграм.

Таксама прабіваюцца ў продажы яйкі па 75 тысяч за дзесятак.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## І ў нас будзе газ

Так мусяць неўзабаве сказаць на ліцейна–механічным заводзе, які атрымаў дазвол на праектна–пошукавыя работы па падлючэнні новага вытворчага цэха да новай заводскай кацельні, якая таксама будзе працаваць на блакітным паліве.

Завод пазбавіцца многіх экалагічных бедаў, бо вытворчасць у новым цэху, які стане выпускаць поршневыя кольцы для шырокай гамы аўтамабіляў, замест традыцыйнага коксу будзе скарыстоўваць электрычнасць, а таксама газавае паліва.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Старшыня выручае інвалідаў

У раённым таварыстве інвалідаў па зроку больш за 100 чалавек. Пражыць ім на іх мізэрныя пенсіі вельмі няпроста, таму любой дапамозе яны заўсёды радыя. Летась ім выдзеліці 11 магнітафонаў – шэсць бясплатна, а за пяць інвалідам давялося заплаціць толькі 30% ад іх цаны. З раённага бюджэту выдзеліці 38 мільёнаў рублёў на набыццё 22 радыёпрыёмнікаў "Гародня", якія перадалі інвалідам, якія жывуць у вёсках, дзе радыё няма.

– Для самых малазабяспечаных інвалідаў па зроку наша рэспубліканскае таварыства перадало 15 упаковак гуманітарнай дапамогі з адзеннем, – гаворыць старшыня раённага аддзялення **Вацлаў Закрэўскі**. –Праўда, узнікла праблема з іх дастаўкай з Маладзечна. Свайго транспарту ў нас няма, але дапамог з аўтамабілем старшыня калгаса "Шлях Леніна" **Мечыслаў Валуевіч**.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Каб не гэты крызіс...

Станоўчыя тэндэнцыі ў развіцці рэальнага сектара эканомікі пазначыліся летась у Смаргоні. Калі ў першым квартале мінулага года 52% усіх бюджэтных расходаў пакрываліся за кошт датацый з абласнога бюджэту, то ў другім квартале гэты паказчык знізіўся да 43%, у трэцім – да 38, а напрыканцы года ён паменшыўся да 30%. Сталі лепш працаваць прамысловыя прадпрыемствы, Смаргоншчына паступова набліжаецца да бездатацыйнага ўзроўню работы.

Але ж вось гэты крызіс. У параўнанні з 1997 годам павялічваецца нядоімка па плацяжах у бюджэт. У прыватнасці, дапусціці гэтае павелічэнне агрэгатны завод і ўся сельская гаспадарка.

Шкада, бо ажыццяўленне мары смаргонскіх фінансістаў – поўнасцю пакрываць уласныя расходы за кошт уласных жа даходаў, напэўна, крышку адкладваецца.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Мільярдэр

У студзені 25–годдзе адзначае будаўнічае ўпраўленне №195.

На рахунку будаўнікоў паліклініка, хірургічны корпус, новы будынак СШ №5, жылы мікраён завода "Зеніт", цэх мэблевай фабрыкі...

Толькі за мінулы год БУ–195 асвоіла 70 мільярдаў рублёў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

## Пашырыліся плошчы музея

Райвыканком перадаў гарадскому краязнаўчаму музею, які месціцца на другім паверсе дома №23 па вуліцы Я. Коласа, першы паверх.

З'явілася добрая магчымасць для пашырэння экспазіцый, размяшчэння тут цікавых гістарычных экспанатаў.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Першая ёлка

Упершыню аддзелы райвыканкома падрыхтавалі святочную ёлку для школьнікаў Маладзечаншчыны.

На свята ў Дом культуры вёскі Краснае запрасілі выдатнікаў вучобы, пераможцаў алімпіяд, лепшых удзельнікаў конкурсу «Таленты Маладзечаншчыны».

*Аддзел інфармацыі.*

ЗДАРЭННІ

# Паўдзесятка год цела нябожчыцы праляжала ў цэнтры Маладзечна

***МАЛАДЗЕЧНА. Тры тыдні ў мясцовым моргу ляжыць мумія (гэта не памылка!) Анастасіі Войніч. Дагэтуль цела 80–гадовай бабулькі праляжала ў аднапакаёўцы дома №1 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага, па розных ацэнках, ад 5 і ці не да 10 год.***

За гэты працяглы час труп не згніў, а высах.

– Так бывае,– патлумачылі ў судова–медыцынскай экспертызе,– а залежыць усё ад многіх складаемых: месца, тэмпературы, масы цела, наяўнасці насякомых, вентыляцыі... У Маладзечне, прыкладам, у тым самым будынку, дзе размяшчаецца нашая служба, памерлая жанчына праляжала (пры адчыненым балконе!) паўтара месяца. Муміфікацыя яе трупа пачалася ўжо (увесь гэты працэс займае каля года).

Нельга сказаць, што жанчына выглядае нібы "жывая". Пад зялёнай суконкай, цёплымі калготамі – чорнае цела. Яно не змяніла свае памеры, добра захаваліся і рысы твару. Навобмацак беларуская мумія – як тая дошка. Дый калі крыху грукнуць па ёй, то чуваць гук, як ад дрэва.

Анастасія Войніч жыла адна. Мужа некалі пахавала, дзяцей не было. Родны брат (старэйшы за яе) жыве (ці, можа, жыў?) пад Калінінградам. Шэсць год таму гэтая жанчына знікла. Устрывожыліся суседзі, аддзел сацыяльнага забеспячэння насельніцтва (ці налічваць пенсію?) – паведамілі ў міліцыю.

Суседзі, дарэчы, гаворацць, што супрацоўнікі міліцыі прыходзілі ў пад'езд. Вось толькі кватэру чамусьці не наведалі. Мусіць, што зачыненая была. Прыязджалі пажарныя, выцягнулі да другога паверха лесвіцу, нехта зазірнуў у акно. Аднак "нічога такога" там не ўбачыў.

Дом №1 калісьці быў ведамасным, належаў заводу лёгкіх металаканструкцый. Потым яго (разам з памерлай) перадалі на баланс "Камунальніка" – ЖРЭУ №5. За кватэру доўгі час ніхто не плаціў, бо гаспадыня лічылася зніклай. Таму пад Новы Год жылплошчу вырашылі засяліць – афармілі дакументы на новых гаспадароў.

Судовым выканаўцам патрэбна было неяк разабрацца з бабчынай маёмасцю, што заставалася ў кватэры. Дзверы ламалі ў прысутнасці і з дапамогай работнікаў домакіраўніцтва. Тады і знайшлі цела кватэраздымшчыцы.

Відаць, лёс у бабы Стасі такі – ніяк цела ў зямліцу не ідзе. Загадчык паталога–анатамічнага аддзялення Маладзечанскай гарбальніцы **Аляксандр Бохан** папрасіў, каб газета пасадзейнічала ў хутчэйшым вырашэнні пытання аб пахаванні жанчыны. Зразумела, што хаваць цела будзе дзяржава. Але толькі пасля адпаведных працэдур.

Загадчык службы судова–медыцынскай экспертызы **Георгій Будо** гаворыць, што немагчыма анатаміраваць цела без санкцыі пракуратуры.

У мясцовым аддзяленні сацыяльнай абароны Войніч памятаюць, як інтэлігентную, жвавую бабулю. У аддзяленні Чырвонага Крыжа яна ў спісах на догляд не значылася. Суседзі лічылі яе дзіўнаватай, супрацоўніку газеты нават параілі звярнуцца па інфармацыю ў псіх–неўралагічны дыспансер: маўляў, там больш пра бабульку раскажуць.

– А дзе яна некалі працавала?

Адказу мне не даў ніхто.

Ніхто ў пад'ездзе не адчуў ніякага пабочнага паху. Нябожчыца мела с суседскай кватэрай агульны тамбур, па якім штодня па некалькі разоў выводзілі "на шпацыр" усходне–еўрапейскую аўчарку. Сабака таксама нічога не адчуваў, ніколі нават не ўстрывожыўся.

Ды што сабака- калі людзі не заўважылі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



Магазін №51 у доме бабы Стасі, больш вядомы, як «Крывы».



Пад"езд, у які апошні раз баба Стася зайшла сама.



Жыццё працягваецца... У дзвары дома №1.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

ФУТБОЛ

## Каманда распадаецца?

МАЛАДЗЕЧНА. Леанід Кучук цвёрда намераны пакінуць пасаду галоўнага трэнера ФК «Маладзечна». Хутчэй за ўсё, ён будзе працаваць у мінскім «Тарпеда».

– Супраць ФК «Маладзечна» я нічога не маю, павінна была атрымацца класная каманда. Але здараюцца выпадкі, калі ні ад трэнера, ні ад футбалістаў многае не залежыць,– гаворыць трэнер.

*Аддзел інфармацыі.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## "Герой працы" без спецадзення

МАЛАДЗЕЧНА. Спецыялісты санітарнай і ветэрынарнай службаў разам з прадстаўнікамі гармалзавода напрыканцы мінулага правялі праверку захавання санітарна–ветэрынарных правілаў на 43 з 54 малочна–таварных фермаў, якія ёсць у раёне, ва ўсіх 18 гаспадарках і 3 прадпрыемствах.

Практычна на ўсіх фермах не працуюць душавыя. 3–за адсутнасці ацяплення не працуюць добраўпарадкаваныя туалеты. На трэці праверанны фермаў няма ацяпляемых памяшканняў, каб проста пагрэцца.

Летась не атрымалі спецадзення ў калгасах "Маладзечанскі", "Палачаны", "Герой працы", часткова ў калгасах "Маркава", "Лебедзева", "Яхімоўшчына".

Гармалзавод забяспечвае гаспадаркі мыйнымі сродкамі, тым не менш, яны адсутнічалі на МТФ Укропава (калгас "Гарадзілава"), Соўлава і Шыпулічаў (калгас "Кастрычнік"). На фермах калгаса "Усход" мыйныя сродкі былі ў абмежаванай колькасці. Адпаведна, на гэтых фермах дрэнна памытыя малочныя апараты.

Па выніках праверак складзены пратаколы на 9 службовых асоб калгасаў "Гарадзілава", "Кастрычнік", "Палачаны", "Прагрэс", імя Дзяржынскага, імя Гастэлы, "Краснае". Кіраўнікам усіх гаспадарак зробленыя прадпісанні па ўхіленні адзначаных парушэнняў.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ,*

*намеснік галоўнага ўрача Маладзечанскага РЦГіЭ.*

 



# Конкурс

Культурніцкае аб'яднанне моладзі "Будзіны" пры падтрымцы Фонду "Дзецям Чарнобыля", Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ), Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) абвяшчае II–гі тур конкурсу **"Наш дом – Беларусь у XXI–м стагоддзі"**. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаем дзяцей і падлеткаў ад 6–гадовага да выпускнога ўзросту.

Конкурс праходзіць у трох жанрах:

**1. Мастацтва 2. Паэзія 3. Проза.**

Запрашаем узяць удзел у пяці намінацыях з падтэмамі:

**1. "Беларусь – наша Бацькаўшчына, наша Маці":**

а) Край наш – дзівосны прыстанак загадак і цудаў. (М. Гусоўскі)

б) Беларусь, прачынайся! Я цябе абуджаю. (Ул. Караткевіч)

**2. "Беларусь – наш Дом, наш Храм":**

а) Кінь вечны плач свой аб старонцы. (М. Багдановіч)

б) Беларусь! Ты ўсёй зямлі акраса. (А. Русецкі)

**3. "Беларусы – Еўрапейскі народ":**

а) Дык жа ўцям! На Беларусі – Жывуць Беларусы!" (Я. Купала)

б) Беларусь, твой народ дачакаецца светлага, яснага дня! (М. Багдановіч)

**4. "Абаронім наш дом – Беларусь!":**

а) Над нашай Незалежнасцю лунае Касцюшкава мяча блаславенне! (Р. Барадулін)

б) Асланяйце Беларусь Святую! Вечны той, хто родны Край ратуе! (Р. Барадулін)

**5. "Выратуем Беларусь ад чарнобыльскай бяды":**

а) Артыкул, верш, малюнак, аповяд;

б) Ідэі, праграмы і праекты сацыяльнай абароны і падтрымкі "Дзяцей Чарнобыля".

Да конкурсу ў пятай намінацыі запрашаюцца студэнты ВНУ!

**Падводзіць вынікі II–га туру будзе журы ў складзе:**

**Рыгор Барадулін – Народны паэт Беларусі (старшыня), Генадзь Грушавы – прафесар (сустаршыня).**

**Мастакі:** Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Алесь Шатэрнік, Хведар Ладуцька, Яўген Кулік, Сяргей Крыштаповіч.

**Паэты:** Сяржук Законнікаў, Генадзь Бураўкін, Міхась Скобла, Артур Вольскі.

**Пісьменнікі:** Міхась Тычына, Уладзімір Арлоў, Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў.

**Ідэя конкурсу:** Уладзімір Падгол, Лявон Баршчэўскі, Вітай Жагунь–Шаркоўскі, Хрысціна Сідун, Уладзь Лабковіч.

Конкурс ідзе з 1 лістапада 1998 года па 30 студзеня 1999 года.

27 лютага адбудзецца святочны фэст–узнагароджанне пераможцаў і віншаванне ўдзельнікаў конкурсу.

Для пераможцаў прадугледжаныя ўзнагароды і каштоўныя прызы, для ўдзельнікаў заахвочвальныя падарункі.

Свае працы спадарства можа даслаць на адрас: **а/с №33, Мінск–134, 220134, Беларусь.**

У метрыцы да працы, дасланай на конкурс, належыць абавязкова пазначыць:

адну з намінацый, да якой належыць праца;

адну з падтэм у гэтай намінацыі;

свой узрост.

Дамашніі адрас, тэлефон. Калектыўныя працы павінны мець спіс усіх удзельнікаў. Падайце таксама адрас вашай навучальнай установы.

Зычым вам поспехаў!

***З пашанай — арганізатары.***

КУЛЬТУРА

# Зазірніце ў сямейны альбом

МАЛАДЗЕЧНА. Яшчэ перад калядамі ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Багдановіча адкрылася фотавыстаўка "Зазірніце ў сямейны альбом", арганізаваная аддзелам культуры гарвыканкома пры садзейнічанні Мінскага абласнога краязнаўчага музея і гарадской цэнтральнай бібліятэкі.

Гэта адно з шэрагу мерапрыемстваў, якія пройдуць у рамках праграмы "Мы любім свой горад", цудоўная магчымасць пабываць у мінулым, удыхнуць паветра канца XIX–пачатку XX стагоддзяў.

На выстаўцы, якая будзе працаваць да 14 студзеня, прадстаўленыя 50 здымкаў з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея і каля 200 – з уласных архіваў гараджан.

Зазначу, што гэтая фотавыстаўка – своеасаблівае запрашэнне кожнаму і дома пагартаць старонкі сямейнага альбома, узяць у рукі старыя пажоўклыя фотаздымкі – сведкі мінулага, ушанаваць продкаў.

*Людміла ЦАР.*

СЕКТАР СПОРТУ

# У спартыўным комплексе

СМАРГОНЬ. Галоўнай базай для развіцця фізкультуры і спорту, аздараўлення насельніцтва з'яўляецца спартыўны комплекс "Юнацтва" з яго ўніверсальнай гульнёвай залай, дзвюма барцоўскімі і трэнажорнай заламі, плавальны басейн з дзвюма ваннамі – для дарослых і дзяцей, стадыёнам.

Сёння на базе комплекса працуюць дзве ДЮСШ, футбольны клуб, праходзяць навучанне плаванню вучні школ, насельніцтву аказваюцца платныя паслугі. Штодня "Юнацтва" наведвае да тысячы чалавек.

За год платных паслуг комплекс і басейн аказалі больш як на 170 мільёнаў рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

*Футбол*

# ФК "Маладзечна". Навіны




**Аляксандр Лебедзеў** паехаў на прагляд у тульскі "Арсенал".

**Віталь Міхалёў** ужо ад'ехаў у Бабруйск. Пытанне аб яго пераходзе ў мясцовую «Белшыну"амаль вырашанае – засталося ўладкаваць толькі некаторыя фармальнасці.

Трэнер беразінскага "Металурга" **Канстанцін Харламаў** гаворыць, што **Аляксандр Сінкавец** знаходзіцца пакуль што ў Мінску, але мае даволі цікавыя прапановы.

Падобна на тое, што быт маладзечанскіх футбалістаў паступова наладжваецца, зарплату выплацілі. Раённая федэрацыя футбола (старшыня **Альберт Дабранскі**), гарвыканком (старшыня **Станіслаў Татарыновіч**) і завод лёгкіх металаканструкцый (дырэктар **Мікалай Чурсін**) выказалі гатоўнасць падтрымаць каманду ў новым сезоне.

**Сяргеем Дзямідчыкам** зацікавіўся «Нафтан–Дэвон». Цяпер футбаліст у Наваполацку на праглядзе.

Футбалісты прыступілі да трэніровак, але мінчане і маладзечанцы рыхтуюцца асобна.

Настрой на новы год ва ўсіх прыўзняты:

– Горад у любым выпадку без футбола не застанецца,– аптымістычна заверыў **Уладзімір Галубко**.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# «ПТВэшнікі» ганялі мяч

МАЛАДЗЕЧНА. У канцы снежня тут прайшоў раённы турнір па міні–футболе, у якім узялі ўдзел пяць каманд.

Першымі сталі навучэнцы ПТВ–42 з Беразінскага, за ім размясціліся "Рамас" (Беразінскае), "Забудова" (Чысць), Лебедзева і Турэц–Баяры.

*Мікалай ХАДАСЕВІЧ.*

## ГАРАСКОП 11 – 17 СТУДЗЕНЯ

АВЕН (21.03-20.0
Важны дзень – 15. Шалі і чалавек з–пад знка Авена адыграюць пэўную ролю ў тваім жыцці. У імёнах гэтых асоб будуць прысутнічаць літары "І" і "Ф".

ЦЯЛЕЦ (21.04-21.05)
Важны дзень – 14. На тыдні будзеш аддаваць шмат увагі сябрам.

БЛІЗНЯТЫ (22.05-21.06)
Добрыя дні 11–12, важны – 13. У сярэдзіне тыдня адчуеш эмацыянальны ўздым.

РАК (22.06-23.0
Добрыя дні 11–14. Будзь уважлівы ў стасунках са Львом.

ЛЕЎ (24.07-23.0
Добрыя дні 13–16, важны – 11. Будзь больш разважлівым.

ДЗЕВА (24.08-23.09
Добрыя дні 15–17. Атмасфера вакол цябе будзе надзвычай прыемная.

ШАЛІ (24.09-23.10
Магчымыя драмы ў асабістым жыцці. Табе лепш змяніць аб'ект пачуццяў.

СКАРПІЁН (24.10-22.11)
Важны дзень 17. На рабоце цябе чакае сур'ёзнае даручэнне.

СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)
Важны дзень 16. Прыдумай якую–небудзь авантуру, каб жыццё было весялейшае.

КАЗЯРОГ (22.12-20.01)
Кепскія дні 11–13, важны 15. Палепшыцца тваё фінансавае становішча.

ВАДАЛЕЙ (21.01-19.02)
Кепскія дні 13–15. Любімы чалавек здзівіць цябе.

РЫБЫ (20.02-20.03)
Кепскія дні 15–17, важны 13. Будзе прыгожае каханне, аб якім доўга марыў.

СЕКТАР СПОРТУ

# Калейдаскоп і прыярытэты мінулага спартыўнага года



*Чэмпіёнка краіны лёгкаатлетка з Вілейкі Вікторыя Вяроўкіна.*

ФОТА З АРХІВА «РГ».



*Вынік першага круга быў для маладзечанцаў жудасны...*

ФОТА З АРХІВА «РГ».

Летась «РГ» дастаткова поўна, а калі-нікалі, відаць, і занадта падрабязна расказвала пра мясцовыя спартыўныя падзеі і пра выступленні землякоў на больш высокім узроўні – да сусветнага. Сярод іх ёсць і сапраўдныя зоркі, і менавіта праз "РГ" адбывалася ваша завочнае знаёмства з імі. Усё гэта захавалася ў загалоўках і цытатах .

СКОНЧЫЛАСЯ МАЛАДЗЕЧАНСКАЕ БЯЗЛАДДЗЕ (у **трэнерскай кар'еры** Ігара Бялова). *МАЙКА АД ГРЫБАЕДАВА ПАЙШЛА ЗА 10 ДОЛАРАЎ* - *"...таксама змываў соль з твару. На дыстанцыі скінуў 5 кг...".* ПАН ХВАСТОВІЧ *І ФК "СЕЛЕНА"* - *"...Гарадскія ўлады прыклалі шмат намаганняў, каб забраць клуб пад сваю апеку і расціць, а не рапрадаваць футбалістаў...".* АЛЯКСАНДР *КУЛАК: "ГАРАДКІ ГОРШЫЯ ЗА КЁРЛІНГ?" РЫНГА ЯК ФІЛАСОФСКІ КАМЕНЬ СУСВЕТНАЙ ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ. БАСТАВАЦЬ АБО ГУЛЯЦЬ* (**была вясною і такая альтэрнатыва ў ФК "Маладзечна"**). *"...наконт маёй першай Алімпіяды? Асаблівы стан чалавека. Дзейнічае, скажам так, на мазгі..."* (з *інтэрв'ю* Васіля Капцюха). *"...Рознакаляровы, шумны натоўп барысаўскіх фанаў...і насупраць - маўклівыя, шэрыя, але поўныя трыбуны з маладзечанскімі балельшчыкамі, як адлюстраванне футбольных спраў у гарадах па розныя бакі ад сталіцы...". "...- Маладзечна мае басейн, ёсць добрыя плыўцы – можа, тут ватэрпольную групу зладзіць?...". ПАРАЖНЯК* (**пра футбол, натуральна**). *Б'ЮЦЬ ПРЫЕЗДЖЫХ* (**а гэта ўжо астравецкія баксёры**). *ПАХУДЗЕЛА* (**пераможца маладзечанскага марафону** Галіна Кавалёва). *ЧИСТЬ! "ЗАБУДОВА"! ПОБЕДА БУДЕТ СНОВА!. "НИ-КИ-ТА!" І ПРОСТА "МО-ЛОД-ЦЫ!". 1:5 І 0:3. БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ* (**два апошнія загалоўкі падзяляе адзін тыдзень**). *"...Фінал быў дастойны Францыі, дзе цяпер змагаюцца лепшыя футбольныя зборныя..."* (**з традыцыйнага турніру ў Беразінскім**). *"...АШМЯНЫ....- III этап чэмпіяната Еўропы па мотаспорце...". "...Перад гэтым матчам гульцам часткова выплацілі запазычанасць па зарплаце. Быў стымул пагуляць. Што будзе, калі выплацяць усё?...". "...Жыць, азіраючыся назад, - значыць існаваць. Трэба шукаць шляхі да прагрэсу ва ўсім, у тым ліку, і ў футболе... Балельшчыкі патрабуюць да сябе ўвагі, бо яны - гледачы ў тэатры пад назвай "Футбол"... спорт- гэта не толькі вялікія грошы, але і штодзённая цяжкая праца над самім сабой...". "...Зімою пайшло на свой хлеб "Маладзечна". Вынік першага круга для клуба проста жудасны...". ПАЎДНЁВЫ ТЭМПЕРАМЕНТ ЮРЫЯ ЛУКІНА ДАЕ ПЕРШЫЯ ПЛАДЫ. АНДРЭЙ БАРБАШЫНСКІ: "ЧОРНЫ ЎЧАСТАК ЖЫЦЦЯ ІДЗЕ ЗА СВЕТЛЫМ І ДОБРЫМ"* - *"...Пасля фіналу некалькі гадзін не маглі ўразумець зробленае, проста не засталося сіл...". СУСВЕТНЫ РЭКОРД МАЛАДЗЕЧАНЦА* (**каго менавіта?, чытайце наступны загаловак**). *ФАРТУНА(Ў) ЖЫВЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ. ПРЫГОЖА, ПАВЕРЦЕ!* - *"...Дух займае, калі прыгожа ўбраны конь бярэ вялізны бар'ер са сваім гаспадаром, спецыяльнае адзенне якога стварае атмасферу ўрачыстасці...". ЛЕАНІД КУЧУК - АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ "МАЛАДЗЕЧНА"? ЗЛМК - ЧЭМПІЁН!: "...на ўсіх матчах прысутнічалі карэспандэнты - "РГ" працавала для вас, балельшчыкі...". АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА Ў МАЛАДЗЕЧНЕ БЫЎ ТОЛЬКІ ДРУГІМ* (**лёгкаатлет, не хвалюйцеся!**). *УНІВЕРСАЛЬНЫ ВІКТАР ЖУКОЎСКІ - "...Інваспорт цяпер усюды збірае шмат гледачоў. Найлепшай арганізацыяй запомніўся японскі Нагана...". МАКОЎСКІ СУПРАЦЬ ШМЕЙХЕЛЯ. АЛЯКСАНДР КЛІМОВІЧ: "СПАДЗЯЕМСЯ НА ДАСТОЙНУЮ КАНЦОЎКУ". "...Шчаслівыя партнёры панеслі Мікалая на руках да трыбун..."* (**ёсць у жыцці радасць, ці не так?**). *МІЛ"ЬЯРДУМЕСЯЦ - ЦАНА МАЛАДЗЕЧАНСКАГА ФУТБОЛА. КАЛІ ЗА ПОДЗВІГ ПЛАЦЯЦЬ* (**вось яна, дыялектыка - у двух гэтых загалоўках**). *СЛАБЕЙШЫМ ЛАМАЮЦЬ РУКІ* (**армрэстлінг у Валожыне**). *ТЫЯ, ХТО ВЕРЫЦЬ У СЯБЕ* (**з падзей вышэйшай лігі**). *НАШЫХ АБКЛАЛІ: 3 ПЕНАЛЬЦІ Ў ДЗЕНЬ* (**з падзей другой лігі**). *У СМАРГОНЦАЎ УСЁ ВЫДАТНА. ФАНАТЫ "МАЛАДЗЕЧНА", ЯДНАЙЦЕСЯ!? ДОБРА, ШТО АБЛАСНЫ ФУТБОЛ ПРОСТА ІСНУЕ. МАНДРАЖ ЗНІК ПРАЗ ПЯЦЬ ХВІЛІН ГУЛЬНІ З БРАЗІЛЬЦАМІ* (**уражанні чэмпіёна свету** Аляксея Філіпава). *"...трэцяга падобнага правальнага сезону маладзечанскія аматары футбола не вытрымаюць. Куды лягчэй будзе забыцца на існаванне каманды, чым зноў перажываць яе няўдачы...". МЫ - ЗА ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ, ТАМУ БЕГАЕМ. "...МІНСК...чэмпіянат свету па акрабатыцы. Акрамя абласных цэнтраў гэты від спорту развіваецца толькі ў Вілейцы...". КАБ НЕ ЖОНКА ДЫ ТУРПАЕЗДКА, ЦІ Ж БЫЛІ Б МЫ СЛАБЕЙШЫМІ* (**асаблівасці рэгіянальнага валейбола на прыкладзе Мядзела**). *НАСТАЎНІК НАПАДАЕ НА БАРМЕНА* (**і ўсё гэта - футбол**). *"...мы хацелі прыцягнуць гледачоў на трыбуны. Каб яны маглі маральна адпачыць, выпіць бутэльку піва, з'есці шашлычок..."* (**з інтэрв'ю** Сяргея Новіка). *"...Аднак і яго чакаюць узаемаадносіны з вайсковай службай..."* (**з інтэрв'ю** Аляксандра Гармазы). *ЛЕАНІД КУЧУК: "СТАБІЛЬНАСЦІ!" - "...асобныя норы ж лягчэй засыпаць, чым адзіную берлогу, адкуль можа вылезці мядзведзь і паказаць сваю сілу...". 100 КМ ПА МАНЕЖЫ, АБО ДЗІВАКІ ПРЫЕХАЛІ. ПРА МАКОЎСКІХ, ЛАБАНОЎСКАГА І ЛЕГІЯНЕРСКІ КАРАВАЙ* (**сапраўдны трэнер** Анатоль Бераснеў). *МАЛАДЗЕЧАНЦЫ - ЛЕПШЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ. Праўда*, **сярод спартыўных сем'яў.**

Зразумела, што Маладзечна і вялікі футбол са сваім міні–спадарожнікам займалі асноўнае месца ў нашых матэрыялах. А якія іншыя віды спорту найбольш папулярныя ў рэгіёне? У якіх гарадах спартыўнае жыццё ідзе актыўней?

На другім месцы пасля караля спорту знаходзіцца каралева –лёгкая атлетыка. Астатнія значна адсталі. Можна адзначыць баскетбол, валейбол і турызм, што таксама папулярныя практычна ўсюды. А далей пайшлі спецыфічныя віды для кожнага з райцэнтраў. Гарадкі, плаванне, інваспорт ў Маладзечне; акрабатыка і каратэ-до ў Вілейцы; бокс у Астраўцы. За кошт футбола Маладзечанскі раён і Смаргонь перагналі Вілейку, ад якой адсталі Валожын і яшчэ больш Мядзел, Ашмяны і Астравец.

Хочацца, каб у Новым годзе ФК "Маладзечна" сваёй гульнёй даў падставы вызначыць шырокім кваліфікаваным апытаннем лепшага футбаліста у яго складзе. Можна будзе назваць і лепшых спартсмена і спартсменку рэгіёна.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ

# У Наваградак да сівой даўніны

Другім старажытным горадам пасля Полацка з'яўляецца Наваградак. Вандроўка туды не менш цікавая. Напярэдадні святкаванняў 200–годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча горад значна аднавіўся, стаў утульней. Дамы заззялі рознакаляровымі фарбамі, і падалося, што ён быццам гаворыць кожнаму, хто тут з'яўляецца:

– Паглядзіце, які я прыгожы! Зірніце наўкол з гэтай высокай Міндоўгавай гары: вунь з усіх куткоў нашай Бацькаўшчыны стужкамі бягуць да мяне дарогі. Прыязджайце, не пашкадуеце. Я раскажу вам пра тое, як тут пачыналася старажытна–беларуская дзяржава, пра яе гаспадароў, пра тое, як я быў першай яе сталіцай, пра выдатных людзей, што падарыла свету мая зямля...

Гэтых людзей і сапраўды нямала.

**Ігнат Дамейка** – сябра Міцкевіча. Помнік нашаму земляку стаіць у Сант'яга ў Чылі. Тут на кожным кроку імя яго ўвекавечана: мінерал – дамейкус, фіялка горная – дамейкіяна, горны хрыбет імя Дамейкі. Ён шмат зрабіў для Чылі, хаця мог бы ўсё гэта падарыць свайму народу. Але так ужо склаўся лёс яго.

Такі ж лёс напаткаў і вядомага ва ўсім свеце **Барыса Кіта** – матэматыка, фізіка, хіміка, доктара філасофскіх навук у галіне матэматыкі і гісторыі навук, акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, старэйшага сябра Амерыканскага Астранаўтычнага таварыства, ганаровага сябра Брытанскага Міжпланетнага Таварыства, сябра Камітэта Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі Францыі, прафесара Мэрылендскага (ЗША) ўніверсітэта, залатога медаліста нямецкага таварыства імя Германа Обэрта. Высока ацэнены ва ўсім навуковым свеце, ён толькі ў апошні час стаў вядомы на сваёй Бацькаўшчыне, у Беларусі.

Значны след пакінуў ён і ў Маладзечне. У гады фашысцкай акупацыі здолеў адкрыць тут гандлёвы інстытут. Ён разумеў, што разбураная пасля вайны гаспадарка будзе мець патрэбу ў спецыялістах і, рызыкуючы сваім жыццём, зрабіў усё магчымае, каб асветніцтва не знікла нават у такі час, як вайна. Яму таксама давялося пакінуць Радзіму, каб выратавацца ад смерці і, у выніку, прысвяціць свае адкрыцці ў галіне касманаўтыкі Злучаным Штатам Амерыкі.

**Ян Чачот, Адам Міцкевіч.** Гэта паэты, змагары за свабоду і дэмакратыю ва ўмовах панавання і прыгнёту Расіі. Абодва былі за турэмнымі кратамі. Адам Міцкевіч ратаваўся за мяжой. У Францыі яму дапамагала Жорж Санд, у Італіі – Зінаіда Валконская. Змагаўся ён за свабоду і чалавечую годнасць не толькі пяром, але і са зброяй у руках. Музей Міцкевіча ў Наваградку раскажа табе, шаноўны чытач, больш падрабязна пра яго жыццё, барацьбу і пра каханне, якое балюча раніла яго сэрца на ўсё жыццё.

Адам Міцкевіч у Наваградку.

Шмат цікавага можна ўбачыць і пачуць у краязнаўчым музеі. Дарэчы, там ёсць раздзел, дзе прадстаўленыя архівы Барыса Кіта.

Прыгожыя ваколіцы Наваградка яшчэ больш упрыгожвае возера Свіцязь, якое месціцца на адлегласці 20 кіламетраў ад горада. Пры жаданні можна трапіць і ў Завоссе, дзе нарадзіўся Міцкевіч. Трэба меркаваць, што і гэтая вандроўка пакіне незабыўныя ўражанні, раскажа пра адзін з цікавейшых куткоў нашай краіны.

*Любоў КАРПОВІЧ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 30.12 | 6.01 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 270 | 285 |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | – | – |
| Селядзец | 1 кг | 250 | 260 |
| Рыс | 1 кг | 135 | 140 |
| Цукар | 1 кг | 78–89 | 89 |
| Грэчка | 1 кг | 110 | 115 |
| Алей | 1 л | 230 | 240 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 55 | 60 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 290 | 320 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 90 | 100 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 64 | 65 |
| Лімоны | 1кг | 275 | 310 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | 180 |
| Масла | 1 кг | 340 | 360–400 |
| Тварог | 1 кг | 90 | 70 |
| Малако | 1,5 л | 40 | 35 |
| Бульба | 1 вядро | 110 | – |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 180 | 120–150 |

ГАНДАЛЬ

# Новы Год па–брацку

ВІЛЕЙКА. Не засталіся на Новы Год без далікатэсаў нашы малодшыя браты.

Магазін "Вікторыя" (ён жа "25–ы") прапанаваў у святочную міску кансервы "Дружок" для катоў і сабак вытворчасці Баранавіцкага мясакансервавага камбіната. За 350–грамовую ўпакоўку субпрадуктаў з ячнымі крупамі трэба было выкласці 32700.

Смачна есці, малодшыя браткі.

ДРУЖОК
КОНСЕРВЫ ДЛЯ КОШЕК И СОБАК

Каб толькі вашая ежа сёлета да старэйшых не перайшла.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ТРАГЕДЫІ

# Трагічная смерць Тамары Дудко

2 студзеня на шашы Мядзел-Мінск у аўтамабільнай катастрофе загінула Тамара Дудко, намеснік старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Беларусі, старшыня Беларускага саюза жанчын.

Для вілейчан і маладзечанцаў Тамара Мікалаеўна Дудко (у дзявоцтве- Барысава) перш за ўсё не вядомы палітык, а зямляк, чалавек, які пакінуў на малой радзіме добрую аб сабе памяць.

Тамара Мікалаеўна нарадзілася 23 чэрвеня 1945 года ў Вілейцы. Да 1964 года, калі Тамара заканчвае Маладзечанскі палітэхнікум, яе сям'я пераехала ўжо ў Маладзечна. Пасля заканчэння тэхнікума яна накіроўваецца на работу ў Слуцк на цукровы камбінат, а ў 1966 годзе ў сувязі з замужаствам пераведзеная на Маладзечанскі піўзавод на пасаду зменнага тэхнолага. У 1971 годзе яна заканчвае Усесаюзны завочны інстытут харчовай прамысловасці і ёй прысвоена кваліфікацыя інжынера-тэхнолага брадзільных вытворчасцей. 6 снежня 1971 года яна прызначаецца галоўным інжынерам, а праз тры гады, калі ёй было дваццаць дзевяць- дырэктарам піўзавода.

17 мая 1982 года яна пераводзіцца намеснікам генеральнага дырэктара ВА"Мінскпіўпрам". У апошнія гады Тамара Дудко працавала генеральным дырэктарам ААТ "Аліварыя"- аднаго з лепшых піўзаводаў рэспублікі.

У Маладзечне Тамару Мікалаеўну памятаюць. Гаворыць інжынер па працы піўзавода **Яўгенія Шыловіч**: Тамара Мікалаеўна была чалавекам надзычайнай дабрыні, вельмі ўважлівая да людзей, але і патрабавальная. Ды можна быць проста добрым кіраўніком, а можна спалучаць у сабе якасці кіраўніка і спецыяліста. Тамара Мікалаеўна была выдатным піваварам. Яна адчувала піва. Зрабіла марку маладзечанскага піва вядомай. А піваварэнне стала і сямейнай справай. Сын Мікалай, сёння Мікалай Аркадзьевіч, працуе намеснікам Тамары Мікалаеўны на ААТ"Аліварыя".

Тамара Мікалаеўна заўсёды была ўважлівай да сваіх дзяцей- Мікалая і Надзеі, з пяшчотай і любоўю сустрэла пяць год таму з'яўленне на свет унучкі Насцечкі. Усё абарвала недарэчнае здарэнне на шашы Мінск-Мядзел паблізу вёскі Сваткі на Мядзельшчыне 2 студзеня ў тры гадзіны дня. "Вольва-460", на якой ехала з санаторыя "Сосны" сям'я Тамары Мікалаеўны, не змагла пазбегнуць лабавога сутыкнення з "Фольксвагенам-Пасатам", які выехаў на паласу сустрэчнага руху. Тамара Дудко і яе зяць загінулі.

СМАЧНА ЕСЦІ

# Лупатае страшыдла

У той год, калі стыпендыі за май хапіла аж на 28 бутэлек піва, я рушыў на заробкі ў Польшчу.

Працаваў на тар–таку (так завецца лесапілка), дзе і пазнаёміўся з Марэкам. Акрамя таго, што ён працаваў на лесапілцы, у яго было каля 20 га зямлі, дзе ў штучных рыбніках гадаваліся карпы. Аднаго разу пасля работы Марэк запрасіў агледзець яго гаспадарку. У дзвюх сажалках плюхаліся карпы, а каля незакончанай трэцяй стаяў гусенічны трактар.

– Ваш рускі "Сталінец" зламаўся, – паскардзіўся Марэк.

Пакуль гаспадар карміў рыбу, я пачаў аглядаць трактар. І хаця з гусенічнай тэхнікай сустракаўся толькі ў войску (разоў колькі праехаў на брані танка), але крыўда за некалі наш трактар і некаторая кемлівасць дапамаглі недзе праз паўгадзіны знайсці паломку, а потым і запусціць дызель. У знак пашаны Марэк запрасіў на вячэру пакаштаваць карпа.

Якое ж было маё здзіўленне, калі пасля таго, як разлілі па кілішках гарэлку "WYBOROWA", мне на талерку, замест чаканага тлустага кавалка, паклалі вялізную галаву карпа. Рабіць было няма чаго, таму пачаў пакрысе ласавацца гэтым лупатым страшыдлам. Яго мяса, якога ў галаве аказалася дастаткова нагадвала вараныя свіныя мазгі.

Назаўтра я даведаўся, што галаву карпа падаюць самаму паважанаму госцю. А потым – і як гатаваць гэтую рыбу.

Карпа пачысціць, памыць, заліць воцатам, дадаць цыбулю, пасаліць, паперчыць, марынаваць адну гадзіну. У катрулю наліць 1 літр цёмнага піва (можна, прыкладам, "Леккертъ 2"), дадаць жменю разынак, цэдру лімона, 1–2 гваздзікі. Закіпяціць. У гэтым адвары варыць рыбу на маленькім агні 20 хвілін.

У крамах карпы каштуюць пад 300 тысяч рублёў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ЗДАРЭННІ

# Загінуў на службе

***МАЛАДЗЕЧНА. За дзень да Новага Года загінуў супрацоўнік мясцовай міліцыі Іван Карэцкі. Яму было ўсяго 30, без бацькі засталася 6–гадовая дачка.***

У вёску Турэц–Баяры выклікалі супрацоўнікаў міліцыі: 58–гадовы В. Н. парэзаў свайго пасынка, схапіў вінтоўку, бегаў па двары і пагражаў усім і ўся. Утаймаваць гаспадара прыехалі ўчастковы, эксперт–крыміналіст І. Карэцкі і следчы–жанчына.

Злачынца некуды знік. Участковы з вадзіцелем паехалі па вёсцы шукаць яго. У гэты час В. Н. выйшаў з прыбудовы і стрэліў у крыміналіста. Забраў аўтамат, затым пусціў чаргу ў следчага. Жанчына кінулася на зямлю, таму кулі прайшлі над ёю. Наступныя стрэлы забойца прызначыў сабе.

*Аддзел інфармацыі.*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА, ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# Важкі малы бізнес

СМАРГОНЬ. 97 МП і ТАА, 31 фермерская гаспадарка, 8 АТ, 2 замежныя прадпрыемствы, а таксама 742 прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы зарэгістраваныя ў раёне і горадзе.

Усяго ў малым бізнесе працуюць 2360 чалавек; у МП і таварыствах з абмежаванай адказнасцю – 1304, у фермерскіх гаспадарках – 51, сумесных і замежныз прадпрыемствах – 110, прадпрымальнікаў налічваецца 897 чалавек, у тым ліку 155 – наёмных.

Апрача традыцыйных відаў дзейнасці ёсць даволі цікавыя – выплаўка алюмініевых сплаваў з адыходаў, вытворчасць макароны (8 тон у суткі вырабляе яе фірма "Дарвес" канцэрна "Праінтэкс Лтд").

*Павел МАКЛЮК.*

# Ложкі, сталы, і табурэткі...

ІВЯНЕЦ. "Усё для дома і сям'і" – так можна назваць прадукцыю, якую пачаў выпускаць Івянецкі дрэваапрацоўчы камбінат.

З назначэннем новага дырэктара **Анатоля Протаса** тут значна ажывілася вытворчасць тавараў народнага спажывання. У прыватнасці, пачалі вырабляць ложкі, адноўлена вытворчасць вуглавых канапак для кухні, сталоў, табурэтак. З мэтай пашырэння кола спажыўцоў прымаюцца заяўкі на выкананне ідывідуальных заказаў.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

# Адныя разлічваюцца, іншыя лезуць у даўгі

СМАРГОНЬ. Яшчэ 1,5 мільярда рублёў здолеў заплаціць перад Новым Годам завод аптычнага станкабудавання жыллёва–камунальнай гаспадарцы. Тут ажывае вытворчасць, стабілізавалася выплата заработкаў, памяншаецца запазычанасць перад дзяржавай і па крэдытах.

А вось жыллёва–эксплуатацыйны участак трэста №41 "нарасціў" свае даўгі перад ВА ЖКГ за скарыстаныя энерганосьбіты на 206 мільёнаў рублёў і мае агульную запазычанасць у 5158 мільёнаў рублёў. Мясцовая ўлада задумалася над рэарганізацыяй гэтага стратнага ўчастка, які грузам вісне на будмантажным трэсце.

*Павел МАКЛЮК.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Прапанову дэпутатаў не падтрымалі. Іхнія ж калегі

АСТРАВЕЦ. Дзіўныя і незразумелыя рэчы адбываюцца апошнім часам. Што жыццё простых людзей з дня ў дзень пагаршаецца, згаджаюцца амаль усе – і рабочыя з калгаснікамі, і іхнія начальнікі. Адныя ў такіх выпадках прызвычаіліся ўсё спісваць на эканамічны крызіс: ва ўсёй краіне так; што мы можам зрабіць у такой сітуацыі?

Але выйсце трэба шукаць, таму дэпутат Варнянскага сельсавета **Мікалай Уласевіч** і дэпутат Астравецкага райсавета **Іван Крук** на чарговых сесіях звярнуліся да сваіх калегаў з прапановай падпісацца пад зваротам да прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі, дзе выказваліся патрабаванні спыніць абнішчанне насельніцтва і выканаць усе свае прадвыбарныя абяцанні сацыяльнага характару.

Аднак дэпутаты не падтрымаў гэтыя прапановы. На сесіі райсавета дайшло да абсурду: непасрэдна зварот–прапанову не зачыталі, але ў выніку галасавання адхілілі.

Дэпутат Уласевіч лічыць тое, што адбылося на сесіях, не выпадковасцю, а, хутчэй, заканамернасцю. На яго думку, тыя дэпутаты, якімі ўкамплектаваныя мясцовыя Саветы, у пераважнай большасці нікога, акрамя сябе і ўласных інтарэсаў, ва ўладзе не прадстаўляюць. Свае дэпутацкія мандаты яны атрымалі падчас безальтэрнатыўных выбараў 1995 года, як дадатак да кіруючых пасад. І ім нічога іншага не застаецца, як "не заўважаць".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

